# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (729) ГОД XV БЕЛАСТОК 15 ЛЮТАГА 1970 г. ЦАНА 60 гр.



Від на вёску Навасады.




— Зрабіць можна многа, калі ў людзей ёсць да работы ахвота, — сказала мне загадчык школы ў Навасадах, сяброўка Тамара Бусняк. /І пачала расказваць аб навасадаўскіх справах.

Сяляне з Навасадаў у Гайнаўскім павеце сапраўды многа чаго зрабілі для сваёй вёскі грамадскім чынам: пабудавалі краму, дом культуры, перабудавалі школу і давялі яе да парадку. Праўда, не ўсё, што рабілася тут грамадскім чынам, рабілася добра і не ўсім потым людзі ўмелі належна карыстацца. Вось хаця б дом культуры. Пабудавалі яго яшчэ ў 1959 годзе намаганнямі ўсяе вёскі, а арганізатарам была мясцовая пажарная каманда. Размясцілася тут пажарнае дэпо, вясковае кіно, ды было яшчэ месца на розныя сходы і гульні.

Не доўга аднак навасадаўцы цешыліся сваім домам культуры. Хутка далі аб сабе знаць недахопы паспешнай будовы без належнага тэхнічнага кантролю. У будынку ўзнікалі зацёкі, пачаў расці грыб. І новы будынак трэба было замкнуць на замок. Замкнуты ён прастаяў некалькі гадоў. Паміж уладамі ішла спрэчка, хто, уласна кажучы, з'яўляецца гаспадаром будынка: ГРН ці пажарная каманда, а замок на дзвярах дома вісеў, ды іржавеў на дажджы. Нарэшце ўсё ж дайшлі да паразумення, і парадак у навасадаўскім доме культуры зрабіла мясцовая грамадская рада нарадовая. Добра! Зараз апеку над домам культуры пераняло прадпрыемства «Рух», якое пачало тут арганізаваць свой клуб.

Найбольш аднак працы грамадскім чынам відаць у навасадаўскай школе. Калісьці стаяў тут невялікі, драўляны школьны будынак, у якім маглі вучыцца адначасова толькі два класы. Бацькі пад кіраўніцтвам настаўнікаў грунтоўна перабудавалі і разбудавалі будынак, робячы месца на 5 класаў. Кошт усяе будовы склаў 126 тысяч злотых. Потым тыя ж гаспадары абгарадзілі школьны пляц прыгожанька (гэта ізноў жа 40 тысяч злотых «чыну»). На школьным пляцы была пабудавана працоўня да тэхнічна-практычных заняткаў, у якой вучні вучацца прымяняць свае веды ў практычным жыцці.

Працаваць для супольнай карысці любяць у Навасадах не толькі старэйшыя, але таксама і школьная моладзь. Калі праводзілі ў вёсцы камасацыю, школа атрымала ўчастак зямлі велічынёю аднаго гектара. На ўчастку гэтым настаўнікі супольна з вучнямі праводзяць эксперыменты рацыянальнага гаспадарання. Вось хаця б мінеральныя ўгнаенні. У Навасадах гаспадары не выкупляюць належнай колькасці ўгнаенняў. Лічаць, што яны мала прыдатныя. Школа пастанавіла даказаць, што гэта не так. На школьным участку застасавана ўгнаенне згодна з агратэхнічнымі нормамі. Ураджай быў на дзіва. У 1968 г. быў засеяны на гэтым участку лён. Калі плён вязлі на пункт

Працяг на стар. 4



Сяргей Сідарук — солтыс вёскі Навасады.




● 26 і 27 студзеня ў Галоўным праўленні адбыўся семінар для сакратароў аддзелаў БГКТ. Вёў яго сакратар ГП Янка Зенюк. На семінары шырока былі абмеркаваны інструкцыі ГП: фінансавая і 2 арганізацыйныя. Апрача таго, намеснік старшыні ваяводскай планавай камісіі Е. Лупінскі прачытаў даклад на тэму «Гаспадарчы план Беласточчыны на 1971 год і асноўныя напрамкі будучай пяцігодкі».

● У Беластоцкім павеце існавалі два аддзелы БГКТ: у Гарадку і Міхалове. Згодна з пастановай прэзідыума, у павеце павінен быць адзін аддзел з сядзібаю ў Беластоку. 28 студзеня ў памяшканні ГП адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя. Даклад чытаў Янка Цялушэцкі. У дыскусіі, між іншым, выступіў сакратар павятовага камітэта ПАРП у Беластоку Ян Трынішэўскі, прадстаўнік упраўлення унутраных спраў ВРН — Мікалай Куц і сакратар ГП Янка Зенюк. Канфэрэнцыя выбрала 23-асабовае праўленне аддзела і трохасабовую рэвізійную камісію. Вёў канферэнцыю Мікалай Матэйчук. Адразу ж пасля канферэнцыі адбыўся пленум праўлення, на якім быў выбраны прэзідыум у наступным складзе: Віктар Кандрусік — старшыня (ён працуе намеснікам кіраўніка фінансавага аддзела прэзідыума павятовай рады нарадовай у Беластоку), Мікалай Матэйчук — намеснік старшыні, Янка Цялушэцкі — сакратар, члены прэзідыума — Зіна Лебядзінская, Антон Саковіч, Аляксандр Хлябіч і Сцяпан Нікіцюк.

Да рэвізійнай камісіі выбраны: Янка Азябла — старшыня, а членамі Ірэна Буслоўская і Хведар Садоўскі.

● На пасяджэнні праўлення варшаўскага аддзела БГКТ 24 студзеня шырока абмяркоўваліся магчымасці арганізавання гурткоў Беларускага таварыства ў дамах студэнтаў. З гэтай мэтай створана камісія, якая зоймецца гэтай справай. У камісію ўвайшлі член прэзідыума аддзела Віктар Стахвіюк (старшыня камісіі), Мікалай Іванчук і Антаніна Рагачэўская. На гэтым жа пасяджэнні былі прачытаны інструкцыі ГП (арганізацыйныя і фінансавая), а таксама была праведзена ацэнка арганізаванай урачыстасці з нагоды 52-ой гадавіны БССР.

● Старшыня этнаграфічнай камісіі ГП БГКТ Уладзімір Гацута 23 і 24 студзеня наведаў кафедру этнаграфіі Варшаўскага універсітэта і дагаварыўся аб формах цеснага супрацоўніцтва гэтай кафедры з ГП БГКТ.

● П'есу Сакрата Яновіча пад загалоўкам «Люцынка — інжынерыха» упершыню падрыхтаваў драмгурток з Арэшкава (Гайнаўскі павет) і 10 студзеня паспяхова выступіў у сваёй вёсцы.

● Для слухачоў універсітэта паўсюдных ведаў, які існуе пры гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку, доктар філалагічных навук Аляксандр Баршчэўскі 30 студзеня выступіў з лекцыяй на тэму «Літаратура перыяду Кіеўскай Русі». (мх)

# З ЖЫЦЦЯ ВАРШАЎСКАГА АДДЗЕЛА БГКТ

13 снежня 1969 года адбылася справаздачная канферэнцыя варшаўскага аддзела БГКТ.

Справаздачны даклад, з якім выступіў сакратар праўлення В. Швед, падсумаваў гадавую дзейнасць нашай варшаўскай арганізацыі.

Варшаўскі аддзел у канцы мінулага года налічваў 260 членаў БГКТ. Склад асабовы арганізацыі выглядае такім чынам: 170 членаў — гэта працоўная інтэлігенцыя, з іх 92 асобы маюць вышэйшую адукацыю і 78 — сярэднюю. Маем 52 студэнтаў вышэйшых навучальных установ Варшавы і толькі 38 рабочых. Таму і праца аддзела накіравана ў напрамку зацікаўленняў інтэлігенцкай большасці.

На працягу мінулага года былі праведзены дзве канферэнцыі аддзела. VI справаздачна-выбарчая канферэнцыя, што адбылася 19.IV.1969 г., выбрала 11-асабовае праўленне, якое ўзначаліў тав. Юрка Бусловіч. Апошняя справаздачная канферэнцыя аддзела, у сувязі з прынятай на ёй пастановай арганізавання гурткоў БГКТ у студэнцкіх інтэрнатах у Варшаве, пашырыла склад праўлення да 19 асоб і выбрала 5-асабовы прэзідыум. У склад прэзідыума увайшлі: старшыня праўлення аддзела тав. Ю. Бусловіч, намеснікі старшыні тав. тав. В. Стахвіюк і М. Врублеўскі, новы сакратар праўлення тав. Я. Заброцкі і В. Швед.

На працягу мінулага года праўленне аддзела 10 разоў збіралася на пасяджэнні. Тэматыкай гэтых пасяджэнняў была апрацоўка і зацверджанне планаў працы, падрыхтоўка да канферэнцыі, ацэнка праведзеных мерапрыемстваў, арганізацыя клубнай працы аддзела.

Культурна-асветная праца аддзела ў справаздачны перыяд была накіравана на адзначэнне слаўных юбілеяў — 50-ай гадавіны Савецкай Беларусі і дваццаціпяцігоддзя Народнай Польшчы. Супольна з Домам савецкай культуры былі праведзены ўрачыстыя вечары, прысвечаныя гэтым знамянальным датам. Апрача гэтага, варта прыгадаць і некаторыя іншыя цікавыя мерапрыемствы, тэматычна звязаныя са спамянутымі вышэй гадавінамі, як даклад мгр Ю. Туронка «Беларускае школьніцтва ў Народнай Польшчы», даклад др К. Лаецўскай «Паэзія 25-годдзя Народнай Польшчы», успаміны адмірала Я. Сабесяка аб партызанскай барацьбе з гітлераўскімі акупантамі. Барацьбе з акупантамі была таксама прысвечана сустрэча з гасцьмі з Беласточчыны: палк. Т. Чайкоўскім — намеснікам шэфа Ваяводскага ваеннага штаба ў Беластоку і палк. Я. Анацікам — старшынёй Акружнога праўлення ЗБОВіД у Беластоку.

Цікавымі таксама былі ўрачыстыя вечары, прысвечаныя 51-ай гадавіне Савецкай Арміі і 52-ой гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. У 25-годдзе ТППР быў арганізаваны вечар, на якім старшыня Варшаўскага ваяводскага праўлення ТППР др Скробіш выступіў са змястоўным дакладам аб культурным супрацоўніцтве ТППР з ТСПД у Мінску. На гэтым вечары са сваімі ўра-

(Працяг на стар. 3)

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### XIX З'ЕЗД ФПК

У мінулым тыдні закончыўся XIX з'езд Французскай камуністычнай партыі, які адкрыўся 4 лютага. З'езд выбраў Цэнтральны камітэт ФПК, які складаецца з 79 членаў і 28 намеснікаў членаў ЦК.

Генеральным сакратаром ЦК ФПК выбраны зноў Вальдэк Рашэ.

Дэлегацыю Цэнтральнага камітэта ПАРП на XIX з'ездзе Французскай кампартыі прадстаўляў член Палітбюро ЦК ПАРП, сакратар ЦК **Ю. Тэйхма,** які выступіў на з'ездзе з прывітальнай прамовай. Дэлегацыю КПСС узначальваў член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС **А. Кірыленка.**

Рашэнні XIX з'езда з'яўляюцца новай старонкай у развіцці камуністычнага руху ў Францыі.

### ПОДПІС

Урад Японіі вырашыў падпісаць дагавор аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. Японскія паслы ў Савецкім Саюзе, ЗША і Англіі падпісалі гэты дагавор ад імя Японіі.

### КАМІТЭТ ПА РАЗЗБРАЕННЮ

Паміж старшынямі камітэта па раззбраенню — прадстаўнікамі Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў — пасля кансультацыі з іншымі членамі камітэта, дасягнута дагаворанасць аб аднаўленні работы камітэта па раззбраенню 17 лютага г. г. у Жэневе.

### СТРАТЫ

500 рэйдаў супраць ізраільскіх акупантаў правялі ў студзені гэтага года арабскія патрыёты, нанёсшы праціўніку вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы. У ходзе гэтых рэйдаў былі збіты 3 ізраільскія самалёты. Забіта 110 афіцэраў і салдат праціўніка і 524 паранена.

### КАНФІСКАЦЫЯ

Усе сельскія ўгоддзі, што належалі былому каралю і былому наследнаму прынцу, указам Рэвалюцыйнага савета Лівійскай Арабскай Рэспублікі перадаюцца ў распараджэнне Міністэрства сельскай гаспадаркі і аграрнай рэформы.

### ГАНДЛЁВЫЯ ПАГАДНЕННІ СССР — ФРГ

У Эсен падпісана пагадненне паміж савецкімі знешнегандлёвымі арганізацыямі з аднаго боку, а заходнегерманскімі фірмамі з другога боку, аб пастаўцы савецкага прыроднага газу ў ФРГ і закупкі савецкім бокам у Заходняй Германіі труб вялікага дыяметра.

Паводле гэтага пагаднення Савецкі Саюз, пачынаючы ад кастрычніка 1973 года, паставіць ФРГ на працягу 20 гадоў звыш 52 мільярдаў кубаметраў прыроднага газу, а ФРГ паставіць Савецкаму Саюзу 1,2 мільёна тон труб вялікага дыяметра і іншага абсталявання для газавой прамысловасці ў перыяд 1970—1972 г. г., а таксама дасць у крэдыт 1,2 мільярда марак для закупкі гэтых труб і абсталявання.

### РЭФЕРЭНДУМ У ЗША

«Галасую за неадкладны вывад войск ЗША з В'етнама» — пад такім лозунгам з 22 па 29 сакавіка ў ЗША будзе праведзены рэферэндум прадстаўнікоў негрыцянскага насельніцтва краіны. (ак)



## БССР

### ПАВЕДАМЛЕННЕ

Апублікавана паведамленне Цэнтральнага Статыстычнага Упраўлення Беларускай ССР аб выніках выканання Дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі ў 1969 годзе.

У параўнанні да 1968 года нацыянальны даход павялічыўся на 8 працэнтаў, прадукцыя прамысловасці — на 11 працэнтаў, колькасць рабочых і служачых — на 4 працэнты, прадукцыйнасць працы ў прамысловасці — на 6,5 працэнтаў; у калгасах і саўгасах — 2,6 працэнта.

Сярэднія заробкі рабочых і служачых у параўнанні да 1968 года павялічыліся на 4 працэнты.

### ЗЛЁТ

У Мінску адбыўся злёт маладых будаўнікоў і мантажнікаў. З дакладам аб рэалізацыі абавязацельстваў у гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна і задач па дастойнай сустрэчы 50-годдзя камсамола Беларусі выступіў першы сакратар Цэнтральнага камітэта Камсамола Беларусі Г. Жабіцкі.

Дакладчык і выступаўшыя ў спрэчках адзначылі, што пытанні далейшага развіцця і ўдасканалення будаўнічай вытворчасці, камплектавання будаўнічых арганізацый рабочымі кадрамі, выхавання моладзі на слаўных традыцыях старэйшага пакалення займаюць важнае месца ў дзейнасці ўсіх камітэтаў камсамола.

У рабоце злёту прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР У. Каменскі, кіраўнікі міністэрстваў.

### УРАДЖАІ

На Міншчыне ўраджаі ў 1969 годзе дасягнулі 18,1 цэнтнера збожжа з аднаго гектара, 142 цэнтнеры бульбы з кожнага гектара пасеваў. Атрымана па 70,2 цэнтнера мяса і 369,2 цэнтнера малака на сто гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў.

### «КІМ»

Віцебская панчошна-трыкатажная фабрыка «КІМ» упершыню ў Беларусі асвоіла выраб эластычнай пражы з ваўняным пакрыццём. Яе тэхналогію распрацаваў калектыў Беларускага навукова-даследчага інстытута тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці.

### УМЕЛЬЦЫ

На выстаўцы ў клубе слонімскай кардоннай фабрыкі «Беларусь» дэманстраваліся работы народных умельцаў. Было паказана каля пяцідзесяці арыгінальных твораў.

Першую прэмію за серыю пейзажаў «Край мой беларускі» атрымаў Мікалай Сідараў, які займаецца выпальваннем па дрэву. Адзначаны работы Ганны Крот, Аляксея Данільчыка, А. Сянькевіча.

### БЕЛАРУСКІ

Удзельнік XXIV сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, беларускі дыпламат Э. Баршчэўскі, сустрэўся з рабочымі абутковага аб'яднання «Прамень». Расказаў ён аб важнейшых выніках мінулай сесіі, а таксама адказваў на шматлікія запытанні. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### ТАВ. УЛ. ГАМУЛКА УЗНАГАРОДЖАНЫ ОРДЭНАМ ЛЕНІНА

З нагоды 65-ай гадавіны з дня нараджэння І сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка атрымаў шэраг шчырых пажаданняў ад кіраўнікоў брацкіх партый і ад працоўных мас краіны. Вярхоўны Савет СССР узнагародзіў тав. Уладзіслава Гамулку ордэнам Леніна.

### НА ЖЭРАНІ

На фабрыцы аўтамашын на Жэрані адбылася канферэнцыя рабочага самаўпраўлення, у якой прыняў удзел І сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка. Выступіў ён на канферэнцыі з прамовою.

Уладзіслаў Гамулка напомніў, што жэраньская фабрыка ўвайшла ў апошнюю фазу першага этапа рэканструкцыі, што забяспечыць у IV квартале гэтага года прадукцыю 50 тысяч аўтамашын «Фіят 125-Р». Далей прамоўца, беручы за прыклад жэраньскае прадпрыемства, сканцэнтраваўся на праблемах гандлю з капіталістычнымі краінамі. У 1966—69 гадах экспарт у капіталістычныя краіны ўзрастаў у сярэднім на 6,2 працэнта ў год, а імпарт на 7,4 працэнта. У сувязі з такой няправільнай сітуацыяй перад усёй нашай гаспадаркай стала заданне: знізіць імпарт з капіталістычных краін і павысіць экспарт у гэтыя краіны. Толькі такім чынам можна будзе пазбыцца задоўжанасці ў замежным гандлі. Абмежаванне імпарту будзе датычыць перад усім прадуктаў спажыцця, інвестыцыйны імпарт мусіць весціся далей, бо ён з'яўляецца істотнай умовай далейшага гаспадарчага прагрэсу. Гаворачы аб коштах прадукцыі, тав. Ул. Гамулка заявіў:

«Трэба пастаянна параўноўваць нашыя паказчыкі з паказчыкамі эканамічна найбольш развітых краін, каб ведаць, якая дыстанцыя нас раздзяляе. Маеце тыя самыя машыны і тую самую сыравіну, аднак кошт прадукцыі ў нас вышэйшы, чымсьці за мяжою. Трэба выявіць прычыны меншай эканамічнай эфектыўнасці, выявіць рэзервы і поўнасцю іх выкарыстаць».

### З ФРГ

4 лютага прыбыў у Варшаву дзяржаўны сакратар Міністэрства замежных спраў Федэратыўнай Рэспублікі Германіі Георг Фердынанд Дуквіц з мэтай правядзення ўзгодненага раней абмену поглядаў паміж урадамі ПНР і ФРГ. З Дуквіцам прыехала ў Польшчу група яго дарадчыкаў.

### 1.216.899

Як вынікае з дадзеных, сабраных Галоўным праўленнем Саюза сацыялістычнай моладзі, арганізацыя гэтая налічвала на дзень 1 студзеня гэтага года 1.216.899 членаў, згуртаваных у 46.881 гуртках.

### ЧАЛАВЕК — СВЕТ — ПАЛІТЫКА

У час дзён палітычнай кніжкі «Чалавек — Свет — Палітыка» было арганізавана звыш 13.000 выставак, каля 4.000 кірмашоў, 3.000 сустрэч з аўтарамі, 5.200 дакладаў і гутарак. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ЮБІЛЕЙ

Дзяржаўнае прадпрыемства «Дом кніжкі» ў Беластоку ўрачыста адзначала свой юбілей: дваццатую гадавіну існавання. Гэтае прадпрыемства мае зараз 56 кнігарняў, якія ў 1969 годзе прадалі кніжак на суму звыш 43 мільёнаў злотых. У параўнанні да 1950 года продаж кніжак павялічыўся ў сем разоў.

На ўрачыстым пасяджэнні, якое 7 лютага г. г. было наладжана з нагоды гэтага юбілею, прынялі, між іншым, удзел сакратар ВК ПАРП В. Мікульскі і намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч.

За вялікія заслугі ў развіцці чытальніцтва і продажу кніжак дырэктару беластоцкага прадпрыемства «Дом кніжкі» была прысвоена «Залатая адзнака» Аб'яднання польскіх кнігароў.

### ВАЯВОДСТВА Ў 1970 ГОДЗЕ

Ваяводскае статыстычнае ўпраўленне аб'явіла камюніке аб выкананні плана і развіцці гаспадаркі Беласточчыны ў 1969 годзе. Яно сцвярджае, што вартасць валавой прадукцыі дзяржаўнай і спулдзельчай прамысловасці павялічылася на працягу 1969 года на звыш 10%, а гадавыя свае заданні гэтая прамысловасць перавыканала на звыш 2%. Асабліва паспяховае развіццё наглядалася ў машынабудаўнічай і тэкстыльнай прамысловасці.

Тавары, якія з нашага ваяводства пайшлі за мяжу, ацэньваюць амаль на 1900 мільёнаў зл. У гэтай галіне можам адзначыць шматзначны поспех. Экспартная прадукцыя павялічылася ў нас на 25%.

На прадпрыемствах ваяводства працавала ў сярэднім 64 тысячы рабочых, а сярэдняя месячная зарплата брутто павялічылася да 2078 зл. На працягу года рабочая армія Беласточчыны павялічылася на 3250 асоб.

На разбудову гаспадаркі ваяводства ў мінулым годзе дзяржава прызначыла 3 мільярды 794 мільёны 300 тысяч зл. Дзякуючы гэтым капіталаўкладанням, між іншым, электрычнае святло атрымала 4700 вясковых сяліб, пабудавана 21 пачатковая і 3 прафесіянальныя школы. Жыхары гарадоў і пасёлкаў атрымалі 3670 новых памяшканняў.

На тэрыторыі Беласточчыны было 1675 лекараў і 2300 медсёстраў, якія працавалі ў ваяводскіх і павятовых бальніцах, ды ў 164 вясковых пунктах аховы здароўя.

Урэшце варта адзначыць, што ашчаднасці грамадзян у ПКО перавысілі суму 2 мільярдаў злотых, а ашчаднасці сялян павялічыліся да амаль 700 мільёнаў злотых.

### ПЛЕНУМ

У Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне ваяводскага камітэта ПАРП. Было яно прысвечана абмеркаванню істотных праблем для сельскагаспадарчых гурткоў у Беластоцкім ваяводстве.

(вр)




**Niedziela 15. II.**

8.05 Program dnia; 8.10 TV Kurs Rolniczy: „Opas bydła dorosłego"; 8.45 „Przypominamy, radzimy"; 9.00 Dla młodych widzów: „Kwadrans po nieparzystej" — film TVP („Czterej pancerni i pies"),; 10.10 „To samo a jednak inaczej" („W starym kinie"); 11.00 „Porównania"; 12.00 Dziennik; 12.30 Bukiet siedmiu traw" (Moskwa); 13.00 „Spotkania z muzyką" — koncert pt.: „Spotkanie z najmłodszymi"; 13.45 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Zakatarzona muzyczka" („Dzięcielinek i Świerzopski"); 14.30 Mistrzostwa Świata FIS w narciarstwie klasycznym. Konkurs skoków w dwuboju zimowym (do kombinacji) (Wysokie Tatry); 16.00 Olimpiada Wiedzy Rolniczej; 16.55 „Piórkiem i węglem"; 17.15 „Portrety" — „Saint Exupery"; 18.00 Piosenki Mikisa Theodorakisa; 18.50 PKF; 19.00 Felieton literacki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Sublokator" — film fab. pol.; 21.40 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 16. II.**

14.25 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata FIS w narciarstwie klasycznym (bieg kobiet na 5 km i bieg do kombinacji 15 km); 18.15 „Eureka"; 18.45 „Znani i lubiani" — felieton; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Teatr TV: Eurypides — „Andromacha"; 21.30 „Na wielkim ekranie"; 22.00 Dziennik; 22.15 Kronika z Mistrzostw Świata FIS.

**Wtorek 17. II.**

9.25 „Kryptonim Preludio 11" — film fab. kub.-NRD; 10.55 Dla szkół: (kl. III lic. i XI) Język polski — St. Grochowiak „Ballada ciesielska"; 11.25 Przerwa; 12.00 Mechanicy w rolnictwie" („Wybieramy zawód"); 12.20 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Wychów cieląt"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 23.20 Politechnika TV I roku. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Dzień Telewizji Kubańskiej. Otwarcie Dnia TV Kub. 16.40 Dziennik; 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych; 19.05 „Melodie i piosenki kubańskie" — film fab. kub.-NRD; 22.05 Dziennik; 22.20 Estrada Literacka: „Słodka i jędrna ziemio..." poezja kubańska; 20.35 „Kryptonim Preludio 11" — film fab. kub.-NRD; 22.05 Dziennik; 22.10 „Suita Yoruba" — film balet. TVP; 22.40 Zakończenie Dnia TV Kubańskiej; 22.55 Kronika Mistrzostw Świata FIS.

**Środa 18. II.**

8.55 „Wojenny siew" — film TVP („Czterej pancerni i pies"); 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Opór elektryczny"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „O niektórych tlenkach"; 11.25 Przerwa; 14.25 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Piosenki kabaretu z papugą"; 17.20 TV Kurier Warszawski; 17.35 Magazyn I T P; 17.45 „Poligon"; 18.15 „Wyprawy" — film; 18.40 PKF; 18.50 „Perspektywy techniki" — rep.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Wojenny siew" — film TVP („Czterej pancerni i pies"); 21.00 Światowid"; 21.30 Kronika Mistrzostw Świata FIS; 21.50 Studio 63: „Szkice do portretu" — „Juliusz Słowacki"; 22.45 Dziennik.

**Czwartek 19. II.**

8. 15 „Matematyka w szkole": „Proces matematyzacji a zastosowanie matematyki"; 8.45 Przerwa; 9.00 Dla szkół: (kl. I—II—III lic. i XI) Język polski — „Poezja polityczna"; 9.30 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Urodzeni w poddaństwie"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl V) Historia — „Życie w Biskupinie"; 12.25 Przerwa; 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja produkcji ziemniaków"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.45 Politechnika TV I roku. Fizyka; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.55 TV Kurier Białostocki; 18.10 „Nad Odrą i Bałtykiem"; 18.40 „Przegląd muzyczny"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Od Sielc do Bugu" („Drogi zwycięstwa"); 20.30 „Śpiewa Irena Santor" — film TVP; 20.45 „Ścigany" — film; 21.35 „Z placu budowy" — program ekonom.; 22.05 Dziennik; 22.20 Kronika Mistrzostw Świata FIS.

**Piątek 20. II.**

10.00 „Ścigany" — film; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Sztuka ludowa"; 11.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Mój warsztat pracy"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.35 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Aula" — sesja XI; 17.50 TV Kurier Mazowiecki; 18.05 „Nie tylko dla pań"; 18.25 Wszechnica TV: „Nasi uczeni" — Tadeusz Pełczyński; 18.55 „Gramy o telewizor" — teleturniej; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV: M. Weliczkow — „Prawie komedia"; 21.20 „Fikcja i rzeczywistość"; 21.40 „Rozmowy o książkach"; 21.55 Dziennik; 22.10 Kronika z Mistrzostw Świata FIS.

**Sobota 21. II.**

9.20 „Film z czarującą dziewczyną" — film fab. rum.; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Krajobraz wulkaniczny"; 11.25 Przerwa; 12.10 TV Kurs Rolniczy: „Nowe kierunki w chowie bydła"; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Układ nerwowy"; 13.20 Transmisja z Mistrzostw Świata FIS. Otwarty konkurs skoków; 16.00 Program dnia; 16.05 Program tygodnia; 16.25 „Oferty" — reklama; 16.40 Dziennik; 16.50 Teatr Młodego Widza: A. Korta i T. Nowak — „Gniewko, syn rybaka" cz. V pt. „Ta wieś nazywa się Płowce"; 17.40 „Spotkania z przyrodą"; 18.05 „Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza"; 18. 25 „Tele-Echo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 „Z wizytą u Was" — program rozrywkowy z Nowej Huty; 21.30 Dziennik; 21.50 Kronika Mistrzostw Świata FIS; 22.20 „Komisarz prowadzi śledztwo" — film fab. franc.




**Piątek, 13 lutego**

8.15 Dla uczniów; 8.45 „Przymusowy spacer". Film fab. 10.05 „Szlakiem Lenina"; 15.15 „Taktyka współczesnego antymarksizmu"; 15.45 Dla uczniów; 16.30 „Czyn"; 17.00 „Lenin w Październiku". Film fab.; 18.10 „Sztafeta nowin"; 19.30 TV teatr miniatur; 20.15 „Dziś przodownicy — jutro każdy"; 20.40 „Ja — z 70-ch"; 21.20 Kronika V zimowej spartakiady BSRR; 21.30 TV barwna.

**Sobota, 14 lutego**

8.45 TV barwna; 9.15 Przegląd międzynarodowy; 9.35 „Szkatułka muzyczna"; 9.50 „Reportaż z wystawy republikańskiej"; 10.20 Program muzyczny; 11.00 TV barwna; 12.40 TV uniwersytet ludowy; 14.05 Filmy animowane dla dzieci; 15.05 „Kronika półwiecza. Rok 1923"; 16.05 Boks. ZSRR — USA; 18.30 „Wasz punkt widzenia"; 19.05 „Złoty cielec". Film fab. I i II seria; 21.45 Kronika narciarskich mistrzostw świata.

**Niedziela, 15 lutego**

8.00 „Kiosk muzyczny"; 8.30 „Horyzonty postępu technicznego"; 9.00 „Rozmowa męska". Film fab.; 10.30 Dla dzieci; 11.30 Dla żołnierzy; 12.00 „Godzina wiejska"; 13.00 TV barwna; 15.45 „Łotewska SRR"; 16.00 „Po Łotwie"; 16.30 Klub filmowy; 17.30 Koncert artystów łotewskich; 18.45 „Siedem dni"; 19.30 Film fab.; 21. 00 Narciarskie mistrzostwa świata.

# 8 ВЕЧАРОЎ II ФЕСТЫВАЛЮ «МУЗЫКА І ПАЭЗІЯ»

Сёння пачынаецца ў Беластоку II Агульнапольскі фестываль «Музыка і паэзія». Працягвацца будзе 8 вечароў. Кожны вечар мае сваю тэму.

Першы вечар называецца **«Маладая Польшча».** У ім музычныя творы М. Карловіча ў выкананні дзяржаўнага сімфанічнага аркестра ў Беластоку пад дырэкцыяй **Я. Куляшэвіча.** Вершы Станіслава Выспянскага будзе чытаць **Э. Фэтынг.** Канцэрт адбудзецца ў тэатры імя А. Вянгеркі ў Беластоку ў 19 гадзін.

Другі вечар — **«Ленін».** Музыка С. Пракоф'ева. Будзе таксама выканана саната «Апасіяната» Л. Бетховена — любімы твор Уладзіміра Леніна. Чытацца будзе паэзія Маякоўскага і Вазнясенскага. Канцэрт у тэатры.

Трэці вечар — **«Шэкспір — Бах».** Творы Баха прадставіць струнны аркестр даўняй музыкі «Класіцы Сілезіяні» з Катовіц. Творы Шэкспіра будзе чытаць вядомая варшаўская актрыса **Зоф'я Мразоўская.** Вечар адбудзецца ў аулі Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.

Чацвёрты вечар — «Рэнесанс і барок». І музыка, і паэзія вечара з перыяду XVI і XVII стагоддзяў. Вершы будзе чытаць **В. Семён.** Вечар у аулі Медыцынскай акадэміі.

Пяты вечар — **«У кругу сучаснага фальклору».** Выступіць тут рэгіянальны музычны калектыў з вёскі Лысэ ў Галдапскім павеце. Уласныя вершы будуць чытаць народныя паэты Беласточчыны. Вечар у зале тэатра «Свершч» у Доме рамяства ў Беластоку.

Шосты вечар — **«Капрычыё»** (капрыс). Музыка ў выкананні скрыпкі — сола твораў Паганіні — найбольшага скрыпача ўсіх часоў, італьянца, і Веняўскага — польскага скрыпача.

Сёмы вечар — **«Лісты Бетховена».** Вечар у двухсотую гадавіну з дня нараджэння вялікага кампазітара. Лісты Бетховена будзе чытаць **Я. Свідэрскі.** А яго санаты на фартэпіяна выканае **Е. Стомпель** — адзін з лепшых маладых польскіх піяністаў. Канцэрт у тэатры.

Восьмы вечар — **«Шапэн».** Вечар у 160-ую гадавіну з дня нараджэння. Будуць чытацца вершы пра Шапэна. А творы музычныя самога кампазітара выканае Дзяржаўны сімфанічны аркестр у Беластоку пад дырэкцыяй Я. Куляшэвіча, сола на фартэпіяна **П. Хэнцінскі.**

I, II, III, IV, VII і VIII вечары будуць паўтораны ў кожны наступны дзень а 10-ай або 16-ай гадзіне ў тых жа самых памяшканнях. Прызначаны для школьнай моладзі. Фотарэпартаж з фестывалю падамо пасля яго заканчэння.

Другі беластоцкі фестываль «Музыка і паэзія» выклікаў велізарнае зацікаўленне ў краіне. Сам міністр **Люцыян Матыка** ўзяў над ім апеку, а на чале ганаровага камітэта фестывалю стаіць I сакратар ВК ПАРП у Беластоку **А. Лашэвіч** і старшыня ПВРН у Беластоку **С. Жмійко.**

Фестываль служыць штораз шырэйшаму кругу людзей і пашырае іх музычна-паэтычныя зацікаўленні, а таксама добра расслаўляе Беласточчыну ў краіне і за граніцай. (вл)

# ПЛАН 1970 года

ВРН на сваёй апошняй сесіі зацвердзіла план гаспадарчага развіцця ваяводства на 1970 год. План гэты, між іншым, прадбачвае, што ў цякучым годзе будзе закончана пабудова наступных аб'ектаў:

- прадпрыемства па вырабу чаротавых пліт і матаў у Элку;
- чыгуначна-ліцейнага цэха ў Кавалях Алецкіх;
- гандлёвага павільёна і механічнай пральні ў Беластоку;
- каналізацыйнай сеткі ў Беластоку, Элку і Сувалках;
- ачышчальні фабрычных сцёкаў у Гайнаўцы;
- базы для будаўлянага прадпрыемства ў Лапах;
- адзінаццаці пачатковых школ;
- дзіцячых садоў у Харошчы і Высокім Мазавецкім;
- раённага цэнтра здароўя ў Сувалках і грамадскіх асяродкаў здароўя ў Дубічах Царкоўных, Візне, Шумове і Рыгалаўцы;
- дзіцячых ясляў у Беластоку;
- шасці адміністрацыйных будынкаў для ГРН;
- рамонтна-транспартнай базы для ВЗГС у Беластоку;
- механічных пякарань у Гайнаўцы, Элку і Беластоку.

Будуць гэта падарункі 1970 года для грамадскасці нашага ваяводства. (вр)

# ЯК БГКТ НЕ БАЧЫЦЬ ПБГ, А ПБГ—БГКТ

Слова аб тым, як усё яшчэ не ўлежалася супрацоўніцтва паміж актывам беларускай арганізацыі і апаратам вясковых бібліятэк. Для прыкладу возьмем Беластоцкі павет. Справы чатырнаццацігадовай даўнасці, ад нарадзін БГКТ у 1956 годзе.

У Беластоцкім павеце налічваецца дзесяць Публічных грамадскіх бібліятэк (ПБГ), якія знаходзяцца ў беларускіх асяроддзях. Вось вынікі, якіх дабіліся яны ўласнымі сіламі, без дапаможнай бэгэкатоўскай рукі: у гэтых бібліятэках налічваецца зараз 355 чытачоў беларускіх кніжак, якіх досыць многа, бо 2.940 экз. Найбольш чытачоў у Гарадоцкай бібліятэцы, 106. Па такой лічбе трэба здагадвацца, што ў Гарадку памагае бібліятэцы беларускі актыў. Але адна ластаўка вясны не чыніць, Гарадок не паставіць на ногі справы шырэння беларускага чытальніцтва ў цэлым Беластоцкім павеце.

Што беларускага адбываецца ў вясковых бібліятэках? Вельмі нямнога. Часамі выстаўка, іншы раз вечар беларускай дзіцячай кніжкі ў Валілах Станцыі або ў Ялоўцы. Дзіцячай кніжкі — бо дарослых мала цікавіць беларуская кніжка. Так кажуць бібліятэкары. І, дзіва бярэ, што найгорш з папулярызацыяй роднай кніжкі ў тых мясцовасцях, дзе існуюць нават моцна актыўныя гурткі Беларускага таварыства: у Міхалове, у ваколіцы Юшкавага Груда, у Прызаблудові. Асабліва крыўдна слухаць гэта цяпер, калі зіма на свеце, а ў вёсках больш часу для культурнай дзейнасці.

Беластоцкае кіраўніцтва тамтых ПБГ ставіць за ўзор Таварыства польска-савецкай дружбы, якое, моцна зацікаўленае супрацоўніцтвам з бібліятэкамі, пастаянна дасылае шмат прапагандовага матэрыялу, арганізоўвае **супольныя** імпрэзы. З уласнага вопыту ведаю, што падобных матэрыялаў няма ла і ў пляцоўках БГКТ: сам бачыў горбы фотавыставак, закінутыя ў кут іншыя камплекты выстаў, выкарыстаных усюды, толькі не ў бібліятэках. Проста, БГКТ не бачыць бібліятэк (ПБГ). Не жаль. З'ява мае і адваротны бок. Ды не месца тут на крытыку бібліятэк, калі хочам гаварыць аб нябачаных магчымасцях пашырэння дзейнасці, аб тых магчымасцях, за якімі не трэба нікуды ганяцца, даволі толькі ўзяць іх, угледзець.

Паўтараю і заўсёды буду паўтараць для памяці тую праўду, што найвышэйшай формай культурна-асветнай дзейнасці з'яўляецца праца з кніжкай, папулярызацыя яе. Гэта той фундамент, без якога ўсё будаванае будзе валіцца і валіцца. (ся)

Пачатак на стар. 1

# ЗРАБІЦЬ МОЖНА МНОГА

жаннямі з пабыўкі ў Польшчы падзяскупкі ў Чыжы, аж кіраўнік пункта здзівіўся.

— Я думаў, — сказаў ён, — што гэта ад усяе вёскі, а тут аказваецца ад адной школы.

За лён атрымалі 18 тысяч злотых. Грошы пераняў на сваё конта бацькоўскі камітэт школы. У 1969 годзе на ўчастку школьнікі пры дапамозе бацькоў пасеялі жыта, за якое атрымалі 6400 злотых. За гэтыя грошы школа арганізавала вучням цудоўную экскурсію на намор'е. Дзеці з Навасадаў наведалі Эльблонг, Мальбарг, Гданьск, Вэстэрпляттэ, Сопат і шэраг іншых славутых гісторыяй і сучаснасцю гарадоў. Экскурсія была падарункам для дзяцей на 25-годдзе народнай улады.

Дасягненні навасадаўскай школы ў галіне пазашкольнай працы на эксперыментальным участку былі б немагчымы без цеснага супрацоўніцтва з мясцовым сельскагаспадарчым гуртком. Усе цяжэйшыя працы на ўчастку сельскагаспадарчы гурток выконвае сваімі машынамі, дапамагае школе ў яе працы транспартам і фаховай парадай. Супрацоўніцтва мае тут, можна б сказаць, персанальны характар: кіраўнік школы, сяброўка Бусняк, з'яўляецца сакратаром сельскагаспадарчага гуртка, а дыспазітар сельскагаспадарчага гуртка Пётр Лапінскі — з'яўляецца старшынёй бацькоўскага камітэта.

Можна зрабіць сапраўды многа, калі да грамадскай працы ўключыцца многа людзей, якія выканаюць яе сумленна і дбайна. У Навасадах да працы грамадскім чынам уключаюцца ўсе дзейнічаючыя тут арганізацыі і ўстановы: сельскагаспадарчы гурток, школа, пажарная каманда, ЗМВ, КГВ, мясцовая моладзь і старэйшыя.

**У. Паўлючук**

**Фота Цаф — Р. Сянько**



**Фядосся Сідарук, аб якой мы нядаўна пісалі ў «Ніве», пры традыцыйнай кудзелі.**



**Раман Янчук — адзін з больш актыўных жыхароў Навасадаў пры працы з круглай пілою.**



**Сельскагаспадарчы гурток у Навасадах мае 10 машына-трактарных камплектаў, 3 амалотныя агрэгаты і мноства іншых сельскагаспадарчых машын.**




Гістарычны Супрасль, здэградаваны апошнімі ваеннымі падзеямі да ролі мала вядомага мястэчка Беласточчыны, і надалей выклікае зацікаўленне розных даследчыкаў, а кожная аб ім вестка хвалюе чытачоў. Праўда, гарадок гэты вырас не дзякуючы яго гістарычнай мінуўшчыне, а з увагі на зусім выпадковае размяшчэнне тут некалькіх тэкстыльных фабрык. Аб падзеях у славутым манастыры з пачатку XVI ст. выдадзена ўжо некалькі даследаванняў («Супрасльский Благовещенский Монастырь» — Н. Долматов, 1892; альбом жывапісу — 1916 і бадай што апошняе аб супрасльскіх фрэсках — альбом Акруговага музея ў Беластоку з 1969 г.).

У апошнія гады прэса падала вестку, што на Захадзе знойдзены і выкуплены ўрадам ПНР вядомы супрасльскі рукапіс з X—XI стагоддзяў (увесь гэты рукапіс налічваў 285 лістоў, але каля 1863 г., праўдападобна, П. Баброўскі 151 ліст перадаў у Варшаву, 16 — у Пецярбург, а 118 лістоў апынулася чамусьці ў Любляне.

Захаваліся весткі аб працы манахаў у манастыры і ваколіцы, аб бібліятэцы, стары кнігазбор якой, пачынаючы ад XVII ст. знішчаўся, а апошні быў перададзены ў Вільню.

Найменш вестак захавалася аб выдавецкай дзейнасці Супрасля, якая заслугоўвае асаблівае ўвагі таму, што па часу ўзнікнення яна знаходзіцца на другім месцы пасля Заблудава (1568 г.), а па ліку выдадзеных кніг не мела сабе роўных на Падляшшы. Праўда, пра час яе ўзнікнення вестак не маем. Дагэтуль спасылаемся на той факт, што віленскі мітрапаліт К. Жахоўскі ў 1687 г. напісаў: «Так как словянская типография имеет быть поставлена не здесь, в Супрасле, по этому желаем, чтобы архимандрит позаботился аб аптеке». Адсюль вынікае, што друкарня тут ужо існавала. Н. Долматаў успамінае, што пасля смерці архімандрыта ў 1893 г. у Супраслі засталося 500 служэбнікаў з 1300 тут выдадзеных. На жаль, знайсці іх хоць назвы (глядзі ніжэй спісак) не ўдалося. Існуюць проста здагадкі, што друкарня магла ўзнікнуць між 1674 і 1687 гадамі. Невядома таксама, адкуль узяліся старaславянскія шрыфты — тагачасны найбольш складаны элемент друкарні. Вядома, што на дваццаць гадоў пазней з Вільні быў прывезены сюды лацінскі шрыфт і з 1712 года пачалі друкавацца кнігі спачатку на лацінскай, а пасля і на польскай мовах. Пра першы перыяд працы друкарні не захавалася амаль ніякіх вестак, а знойдзеныя чатыры кніжкі сведчаць аб неінтэнсіўнай яе дзейнасці. Каля 1720 г. супрасльская друкарня атрымала вялікія заказы на друкаванне папраўленых уніяцкіх багаслужэбнікаў для ўсіх 10 тысяч цэркваў. І ад гэтага моманту выкананне заказаў сталася яе асноўным заняткам.

Пра абсталяванне і прылады друкарні вестак дастатковых не маем. Некалькі кадаўбцоў, капанек, дошак, валкоў, нажоў — вось і ўсе прылады. Але нават у такіх прымітыўных умовах супрасльскія кнігадрукары змаглі вырабляць уласную паперу з воднымі знакамі, а з яе — дасканала афармленыя ў мастацкіх адносінах кнігі.

Супрасльскае выдавецтва ў XVIII ст. пачало паспяхова канкураваць з Кракаўскай Акадэміяй, якая пасля дабілася ад папы забароны на свецкае кнігадрукаванне. Праўда, мясцовыя манахі вельмі часта парушалі гэту забарону.

Тагачасныя кніжкі былі вельмі дарагія. За 320 служэбнікаў манастыр атрымаў 13.440 злотых даходу (Н. Далматаў, стар. 221). Таму сяляне іх не куплялі, а памешчыкі і духавенства, якія ў свой час іх набывалі, потым разам з езуітамі знішчалі ўсе выданні на стараславянскай мове, а пасля ўжо з царскімі ўраднікамі — усё уніяцкае. У выніку такіх абставін кнігі, выдадзеныя ў Супраслі, сталіся на Падляшшы рэдкасцю.

Ніжэй падаецца спіс супрасльскіх кніг і год іх выдання; спіс складзены на падставе розных літаратурных крыніц.

| № | год выдання | Назва кнігі |
|---|---|---|
| 1 | 1689 | Страсти Христовы |
| 2 | 1691 | Трефологий |
| 3 | 1695 | Служебник |
| 4 | 1697 | Последование постригу в малый иноческий образ |
| 5 | 1722 | Собрание припадков краткое |
| 6 | 1727 | Литургикон |
| 7 | 1743 | Библия |
| 8 | 1761 | Букварь языка словенского |
| 9 | 1763 | Литургикон |
| 10 | 1766 | Евхологион |
| 11 | 1772 | Часослов |
| 12 | 1778 | Часовник |
| 13 | 1780 | Часовник |
| 14 | 1780 | Псалтирь |
| 15 | 1781 | Азбука |
| 16 | 1783 | Анфологион |
| 17 | 1786 | Часовник |
| 18 | 1786 | Ефрема Сирина и Аввы Дорофея поучения |
| 19 | 1786 | Святцы с краткими житиями |
| 20 | 1786 | Российской чудотворной |

 

У МУЗЕІ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ Ў БЕЛАСТОКУ

# „ЛЕНІН І ЯГО ІДЭІ“ – ВЫСТАЎКА ПАШТОВЫХ МАРАК



Месяц люты прынёс вельмі цікавую выстаўку ў музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Называецца «Ленін і яго ідэі». Гэта выстаўка паштовых марак на гэтую ж тэму. Маркі з'яўляюцца ўласнасцю 12 беластоцкіх філатэлістаў. На выстаўцы іх 2500 штук. Паказваюць не толькі самога Леніна, але і плён яго жыцця і працы: будовы, барацьбу народаў за вызваленне, дабрабыт людзей і шчасце дзяцей. Ідэя Леніна неабдымная. І так, арганізатары свядома паказалі на выстаўцы маркі, прысвечаныя Юніцэфу — міжнароднаму органу ААН, які нясе дапамогу дзецям ўсяго свету. Правільна, тут ідэя Леніна знаходзіць свой найпрыгажэйшы кшталт.

На выстаўцы маркі з усіх краін народнай дэмакратыі, найбольш аднак савецкіх і польскіх. Падзелены на такія тэмы: гадавіны нараджэння Леніна, праца Леніна ў дарэвалюцыйны перыяд, Ленін у Кастрычніцкай рэвалюцыі, Ленін у перыяд грамадзянскай вайны, мірны перыяд будаўніцтва краіны. II сусветная вайна, ідэі Леніна ў пасляваенны перыяд, ідэі Леніна ў Польшчы.

Выстаўка карыстаецца велізарнай папулярнасцю. Кожны дзень наведваюць яе масава школьныя экскурсіі і прыватныя асобы.

Будучы на выстаўцы, можна пачуць з грампласцінкі арыгінальныя ўрыўкі з прамоў Леніна з 1919 і 1920 гадоў.

### ІНШЫЯ ФОРМЫ ПРАЦЫ МУЗЕЯ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ

У бараковых залах музея будзе адбывацца партыйнае навучанне фабрычных партыйных арганізацый, прысвечанае ленінскай тэме. Музей падрыхтаваў спецыяльны мантаж, які будзе дапаможнікам у навучанні.

*

Музей папоўніўся новымі цікавымі экспанатамі. Першы з іх, набыты пасля смерці Якуба Мартынюка (дзў першы выстрал з Аўроры), — гэта яго Ордэн Леніна. Іншыя дакументы Якуба Мартынюка знайшліся таксама ў музеі. Гэта: яго вайсковая кніжка службы на Аўроры, здымкі, запісы і гэтак далей.

Другі ўнікальны экспанат — Камуністычны каляндар, выдадзены Польскім бюро ЦК Камуністычнай партыі Расіі ў 1920 годзе (дагэтуль толькі два такія экземпляры знаходзіліся ў Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК ПАРП у Варшаве).

У календары ёсць цікавы артыкул Рамуальда Муклевіча-камандуючага Балтыйскага флоту, тэкстыльшчыка родам з Супрасля. Піша ён аб невядомым бліжэй арганізатары сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы ў Беластоку Станіславе Куляшынскім, псеўданім «Артур», які ў 1919 годзе быў ліквідаваны польскай ахранкай у Мінску.

Трэцяе — у музей папала 98 здымкаў гітлераўскага фатографа з часоў другой сусветнай вайны. Былі роблены ў Польшчы, некаторыя на Беласточчыне (Аўгустоў, Сувалкі). Здымкі паказваюць спаленыя хаты, аблавы, вываз людзей, зобыскі і аўтараў усяго таго германска-гітлераўскага «орднунгу» (парадку).

### ГРАМАДСКІ МУЗЕЙ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ Ў ГАЙНАЎЦЫ

Па ініцыятыве павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы і музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку пачынаецца ў Гайнаўцы вялікая праца над арганізаваннем грамадскага музея рэвалюцыйнага руху Гайнаўшчыны. На чале арганізацыйнага камітэта стаяць: першы сакратар павятовага камітэта партыі А. Лазоўскі, старшыня прэзідыума павятовай рады нарадовай А. Хілецкі і старшыня прэзідыума гарадской рады нарадовай К. Ляшчынскі.

Музей будзе змяшчацца ў залах (паверхня 80 кв. метраў) у школе № 1 пры турыстычнай трасе Беласток — Белавежа.

Арганізатары звяртаюцца да ўсіх з просьбай — збіраць і перадаваць экспанаты: архіўныя дакументы, здымкі, членскія білеты, адозвы, узнагароды, лістоўкі, газеты, афішы ў аддзел асветы павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы, дзе змяшчаецца бюро арганізацыйнага камітэта. Можна таксама пісьмова паведамляць аб сваіх пошуках і супрацоўніцтве.

Заклікаем гайнаўскія прамысловыя прадпрыемствы і спулдзельчыя арганізацыі, каб прыйшлі будучаму музею з матэрыяльнай дапамогай. Гайнаўская зямля мае багатыя рэвалюцыйныя традыцыі. Няхай помнікам людзям, якія змагаліся за справядлівы лад, стане Гайнаўскі музей рэвалюцыйнага руху, створаны супольнымі сіламі ўсіх грамадзян павета.

Многа могуць дапамагчы ў збіранні экспанатаў вучні, гарцэры пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў. Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку выслаў да ўсіх грамадзян і школ заклік прыйсці з дапамогай. У гэтай справе можна звяртацца таксама ў Беластоцкі музей рэвалюцыйнага руху, вул. Кілінскага 6, тэл. 34-81. (вл)

---

| | | |
|---|---|---|
| | | службы похвала |
| 21 | 1788 | Святцы |
| 22 | 1788 | О артикулах веры наука |
| 23 | 1788 | Страсти Христовы |
| 24 | 1788 | Канонник |
| 25 | 1788 | Християнское Благочестие |
| 26 | 1788 | Альфа и Омега |
| 27 | 1788 | Скитское покаяние |
| 28 | 1788 | Соловецкая история |
| 29 | 1788 | Покаяние |
| 30 | 1789 | О житии християнском |
| 31 | 1789 | Страсти Христовы |
| 32 | 1789 | Книга... |
| 33 | 1789 | Псалтирь |
| 34 | 1789 | История о отцах соловецких |
| 35 | 1790 | Евангелие учительное |
| 36 | 1790 | Часовник |
| 37 | 1790 | От завещаний божественных апостол |
| 38 | 1790 | Колядная песня |
| 39 | 1790 | Сборник |
| 40 | 1791 | Патерик азбучный |
| 41 | 1791 | Патерик скитский |
| 42 | 1791 | Пролог |
| 43 | 1791 | Канонник |
| 44 | 1791 | Букварь языка словенского |
| 45 | 1792 | Златауст |
| 46 | 1792 | Триод цветная |
| 47 | 1793 | Часослов налойный |
| 48 | 1793 | Страсти Христовы |
| 49 | 1794 | Страсти Христовы |
| 50 | 1795 | Страсти Христовы |
| 51 | 1796 | Псалтирь |
| 52 | 1796 | Святцы |

З усяго вышэй сказанага вынікае, што на працягу 117 гадоў дзейнасці друкарні ў Супраслі былі надрукаваны 52 кніжкі, сярод іх некалькі кніг свецкага зместу (буквары, азбука). Найбольш плённым быў канец XVIII ст. У 1786 г. выдадзены 4 кнігі, у 1788 г. — 9, 1789 — 5 кніг у год.

Канец друкарні быў вельмі сумны. Пасля падзелу Польшчы прускі ўрад пачаў арганізоўваць у сталіцы новаўтворанага дэпартамента ў г. Беластоку сваю друкарню. Для яе папаўнення было вырашана перанесці частку супрасльскага абсталявання, на што манахі не згадзіліся. У 1801 г. яны без дазволу нямецкай цэнзуры надрукавалі чарговы каляндар. Пасля гэтага немцы прадалі друкарню свайму кнігадрукару Аппельбаўму за 1296 руб. У 1806 г. ён у час эвакуацыі перадаў яе нейкаму Арону, пасля чаго след аб друкарні знік.

Неабходна заўважыць, што пасля падзелу Рэчыпаспалітай друкарня не працавала. І. Б. Ракавецкі падае, што ў 1784 г. «У Варшаву забралі Антонія Чарняўскага — складальніка з Супраслі, які арганізаваў там друкарню і стала працаваў» і што «...каля 1790 г. друкарня гэта (супрасльская — У. Ю.) перастала дзейнічаць».

Цікава адзначыць, што гэты ж самы І. Б. Ракавецкі ў 1820 г. апошні раз надрукаваў, праўдападобна, супрасльскімі славянскімі (а побач — лацінскімі) шрыфтамі ўнікальную кнігу «Руская Праўда».

**У. Юзвюк**

# НЕДААЦЭНЬВАЮЦЬ ГРАМАДСКІЯ СУДЫ

На працягу апошніх двух год Экзекутыва ПК ПАРП у Гайнаўцы ў другі раз занялася праблемамі грамадскага суда ў павеце. У 1968 годзе найбольшы націск быў зроблены на самую папулярызацыю гэтага суда. Цяпер, калі наглядаецца значнае развіццё паяднаўчых грамадскіх камісій і рабочых судоў, можна дыскутаваць аб іх больш і шырэй. Больш багатай стала праблематыка, асабліва ў справе паяднаўчых камісій.

### ЗДЗІЎЛЯЮЧАЯ ПАСПЯХОВАСЦЬ

У сучасны момант ужо няма сумненняў у прыдатнасці паяднаўчых грамадскіх камісій. Падставовым аргументам для такога сцвярджэння можа быць факт здзіўляючай паспяховасці пры прымірэнні людскіх канфліктаў іменна гэтым шляхам. Дастаткова сказаць, што 92,5 прац. спраў было закончана станоўча, г. зн. пасвараныя бакі былі паміраны, была ліквідавана крыніца непаразуменняў і сварак. У многіх выпадках, дзякуючы аўтарытэту камісій, удалося прымірыць людзей, якія цягаліся па судах, калегіях, асабліва на вёсцы, дзе гэтыя справы выступаюць вельмі востра і цягнуцца звычайна вельмі доўга.

Гэты факт, бясспрэчна, з'яўляецца вынікам сілы грамадскай думкі, праніклівасці камісій, члены якіх у асноўным дасканала ведаюць усе падрабязнасці справы. Цяпер у Гайнаўскім павеце дзейнічае 9 грамадскіх паяднаўчых камісій, у тым ліку 5 на вёсцы. У датыхчасовай практыцы ўдалося, на шчасце, усцерагчыся ад стварэння камісій на сілу, у асяроддзях, не падрыхтаваных да гэтага. Камісіі не перакрочылі таксама сваіх правоў. Усё ж гэта не азначае, што былі выкарыстаны ўсе магчымасці развіцця грамадскіх судоў. У грамадах Чаромха і Нараў актыўна дзейнічаюць камісіі. У той час слаба развіваюцца яны ў Старакорніне, Ласінцы, Арэшкаве і Белавежы. Ёсць некалькі прычын гэтага. Не ўсюды ГРН і камітэты ФАН бачаць у камісіях важны інструмент у справе інтэграцыі асяроддзя. Здзіўляе таксама той факт, што карна-адміністрацыйныя калегіі, якія маюць заўсёды вельмі многа працы, так рэдка перадаюць некаторыя справы грамадскім паяднаўчым камісіям, дзейнасць якіх у апошні час з'яўляецца вельмі паспяховай. Таксама і міліцыя, (а перш за ўсё дзяльніцовыя і пастарунковыя) не паведамляе грамадзянам аб тым, што некаторыя спорныя справы можна вырашыць дзякуючы грамадскаму суду.

Здараюцца выпадкі, што некаторыя рады нарадовыя ў вельмі шырокім аб'ёме карыстаюцца дапамогай грамадскіх паяднаўчых камісій. Так, напрыклад, выглядае справа ў прэзідыуме МРН у Гайнаўцы, дзе ўсе большыя канфлікты кіруюць у камісіі (у 1969 годзе было разгледжана 27 спраў). Аднак найчасцей камісіі ўсё яшчэ недаацэньваюцца.

### РАБОЧЫЯ СУДЫ

Значна слабей развіваюцца і дзейнічаюць на Гайнаўшчыне рабочыя суды. Да гэтага часу яны былі створаны толькі на трох прадпрыемствах, ды на дадатак рэдка дзейнічаюць яны актыўна. Уласна кажучы, пачалі дзейнічаць толькі два рабочыя суды (на прадпрыемстве драўнянай прамысловасці і прадпрыемстве сухой дыстыляцыі драўніны ў Гайнаўцы).

Дырэктары іншых прадпрыемстваў тлумачаць, што адміністрацыйныя кары (а перш за ўсё фінансавыя) даюць лепшыя вынікі. Ці сапраўды? Можна падазраваць, што проста не заўсёды ім хочацца, каб аб розных непажаданых справах дыскутавалі шырэйшыя колы грамадскасці. Дырэктар Гайнаўскага прадпрыемства драўнянай прамысловасці Аляксей Зін аднак сцвердзіў, што для рабочага больш суровай карай з'яўляецца выступленне перад рабочым судом, чым пазбаўленне прэміі. Асабліва, што тут на суд запрашаюць таксама сем'і абвінавачаных.

Так, як і ў выпадку грамадскіх паяднаўчых камісій, мала спраў рабочым судам перадае міліцыя і пракуратура.

Нашы суды і карныя калегіі наогул рэдка прапануюць грамадскім судам разгледзець некаторыя справы. Прафсаюзы таксама замала прапагандуюць і выкарыстоўваюць грамадскія суды. І таму Экзекутыва ПК прыняла слушную пастанову, каб забавязаць арганізацыі і прадпрыемствы, ад якіх залежыць далейшае развіццё грамадскіх судоў, да большага і сістэматычнага зацікаўлення імі і падтрымкі іх ва ўсіх асяроддзях.

**Кастусь Ляшчынскі**



## KONTRASTY

Беручы ў рукі новы нумар «Кантрастаў», варта памятаць, што распачалі яны ўжо шосты год жыцця. Спярша былі гэта аднаднёўкі, пасля «Кантрасты» сталіся квартальнікам, ды ад студзеня мінулага года выходзяць рэгулярна штомесяц. Ёсць шанцы, што за год — два «Кантрасты» пачнуць выходзіць два разы ў месяц.

Дык што цікавага прыносіць лютаўскі нумар гэтага часопіса?

Перш за ўсё хацелася б звярнуць увагу чытачоў на артыкул «Ленін сярод польскіх салдат». Аўтар артыкула, З. Каштыла, з'яўляецца выдатным знаўцам гэтай праблемы, у артыкуле апісвае малавядомыя факты з жыцця правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі, які знаходзіў час, каб цікавіцца польскімі рэвалюцыйнымі ваеннымі групіроўкамі, што змагаліся за перамогу ўлады Саветаў. Гэты ж сам аўтар З. Каштыла апісвае музей у Бельску, які пад канец мінулага года быў абсталяваны ў былой гестапаўскай катавальні.

Увагу сялян, асабліва жанчын, звяртаем на артыкул пра цудоўныя народныя сакольскія дываны. Пра іх гісторыю піша Ірэна Пшэмыска. Можа, хто захоча павучыцца ад так слаўных ткачых, як Феліцыя Ярашэвіч, Аляксандра Радульская ці Сабіна Маселбас?

У чарговым літаратурным беластоцкім конкурсе першая ўзнагарода прысвоена Ізабелі Конюш за апавяданне «Рука». Гэтае цікавае апавяданне друкуюць менавіта «Кантрасты». Адначасова ацэнку літаратурнага конкурсу праводзяць вядомыя польскія пісьменнікі.

На канец адзначаем вельмі арыгінальны артыкул нашага (ніваўскага) калегі Уладзіміра Паўлючука пра зацікаўленне царкоўнымі іконамі і пра матывы гэтага зацікаўлення. (вр)

### У ТЭАТРЫ ІМЯ А. ВЯНГЕРКІ

Беластоцкі тэатр запрашае ўсіх дзяцей у чарадзейскі свет казкі, дзе радасць і вялікая прыгода. На сцэне тэатра ідзе казка ўсім вядомага Г. Х. Андэрсена «Чырвоныя туфелькі» ў трох актах. У казцы, як у жыцці, весела спяваюць і танцуюць казачныя сімпатычныя героі.

Драматургічная апрацоўка П. Кесцер, пераклад і песні М. Невяроўскі і К. Вінклер, музычная апрацоўка Г. Калдоўскі, танцы М. Бахэнак, рэжысёр З. Бесет, сцэнаграфія В. Чаплянка.

На здымку злева: Андрэй Кароляк (Нельс) і Крыстына Барткевіч (Карэн). (вл)



Змяняем сёння нашу сталую рубрыку «Кулінарыя» на новую — «Што рабіць, каб добра зварыць». У ёй будзем імкнуцца перш за ўсё даваць як найбольш практычных парад, бо добрая яда — гэта ж залог нашага здароўя і добрага самапачуцця. Запрашаем і нашых чытачоў да супольнага рэдагавання нашай рубрыкі. Чакаем вашых прапаноў.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

Сёння

### БОРШЧ

Не кожная гаспадыня ўмее зрабіць добры боршч: каб быў смачны і каб прыгожы быў яго колер. Часта гаспадыні наракаюць, што і мяса ў боршч палажылі многа, і гародніны, і прысмакаў розных, а выгляду боршч не мае, бо звараны ўжо мае непрыгожы аблезла-ружовы ці цаглясты колер.

Каб зварыць найпрасцейшы, але добры боршч, трэба заўсёды памятаць, што пасля таго, як зварыцца булён на мясе (найлепш на свініне, а вельмі добра нават выкарыстаць для гэтага костачкі ад схабу), неабходна дадаць у боршч сталовую лыжку моцнага (10-працэнтнага) воцату, а толькі пасля гэтага можна класці буракі (найлепш не сцёртыя на тарцы, а нарэзаныя саломкай). Варыць боршч, не прыкрываючы занадта шчыльна, на слабым агні, пакуль буракі не стануць мяккія. Больш-менш на 1 кг буракоў трэба ўзяць 0,5 кг мяса або касцей ад схабу, 1—2 цыбулькі. У боршч неабавязкова класці моркву і пятрушку, але добра палажыць 1—2 бульбіны, якія можна выкінуць, калі боршч зварыцца. Боршч трэба пасаліць і дадаць крыху цукру. Хто любіць — дадасць смятаны. Есці з хлебам ці варанай бульбай, палітай тлушчам.

Альбо, напрыклад, **боршч чысты,** які цвёрда ўваходзіць у меню нашых рэстаранаў на працягу цэлага года. Зрабіць вывар з мяса, добрых касцей або сушаных грыбоў, так, каб з яго атрымалася прыблізна палова будучага баршчу (не забыцца дадаць цыбулю, пятрушку, сельдэрэй і моркву). 1 кг буракоў нарэзаць саломкай, заліць халоднай вадой так, каб былі толькі прыкрытыя, давесці да кіпення і адразу адставіць з агню. Няхай так пастаяць пад пакрышкай некалькі гадзін або і да наступнага дня. Працадзіўшы вывар з буракоў, дадаем яго да працэджанага вывару з мяса ці грыбоў, запраўляючы соллю, цукрам і воцатам ці лімоннай кіслатой па смаку. Цяпер боршч трэба моцна разагрэць, але не кіпяціць! Калі боршч робім на грыбным булёне, то неабходна дадаць яшчэ свежага масла. Грыбы ці мяса можна выкарыстаць на піражкі (паштэцікі), без якіх цяжка ўявіць сабе чысты боршч, але аб іх пазней.

Для аматараў **украінскага баршчу,** які з'яўляецца жалезным пунктам усіх рэстаранаў «Інтурыста», а вялікім рарытасам для жыхароў Польшчы, падаем:

Спачатку зварыць мясны булён. Буракі, нарэзаныя саломкай, тушыць паўгадзіны з тлушчам і таматным канцэнтратам (дадаўшы крыху воцату і булёну). Нарэзаць па адной морквіне, цыбулі, пятрушцы і сельдэрэю, падсмажыць усё гэта на тлушчы, пасыпаць мукой, дадаць крыху булёну і закіпяціць.

У падрыхтаваны булён накроіць бульбы, свежай капусты (даволі буйна), улажыць тушаныя буракі, падсмажаныя карэнні, лаўровы ліст, перац. Калі боршч зварыцца, трэба заправіць яго салам, расцертым з часнаком, і даць яму пастаяць мінут 20. Пасля дадаць смятаны, пасыпаць зялёнай пятрушкай.

Гэты боршч кожная гаспадыня можа рабіць па свайму упадабанню, дадаючы больш або менш такіх ці іншых складнікаў. Найлепш: на 0,5 кг мяса прыблізна па 300 г буракоў, бульбы і капусты.

**Гаспадыня**




## ЛЕНІНУ . . .



**У Ленінскім годзе — ушаноўваюць памяць правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі мільёны людзей. Найлепшым сімвалам гэтага з'яўляецца карціна перад Маўзалеем Уладзіміра Ільіча на Чырвонай плошчы ў Маскве.**

### МОСТ СКАНДЫНАВІЯ — КАНТЫНЕНТ!

Ажыццяўленне надзвычай смелага праекта мае намер рэалізаваць некалькі еўрапейскіх краін. Будуць гэта тры масты, якія спалучаць Скандынавію з кантынентальнай Еўропай. Першы мае злучыць шведскі Мальмё з Капенгагенам (праз праліў Эрэсун). Другі мост перакінуты будзе праз Вялікі Бэльт, праліў, які раздзяляе сёння дацкія выспы Зеландыя з Фюн, якая мае ўжо сувязь з кантынентам. І трэці мост праз Фемарн Бэльт спалучыць Данію з Германіяй. Менавіта трэці — мае быць найбольшым мостам у свеце — яго даўжыня будзе складаць звыш 20 км! Праходнасць моста аблічваецца на 1,5 млн машын у год (аплата за пераезд павінна звярнуць кошт пабудовы, які ацэньваецца на каля 500 млн долараў). Цягнікі маюць тут праносіцца з хуткасцю 200 км/гадз. Кабелі і трубаправоды, уложаныя паралельна з мостам, створаць міжнародную энергетычную (электраэнергія, нафта, газ) і водную сістэму. Галандыя, напрыклад, зацікаўлена ў атрыманні вады з трэцяга па велічыні возера на нашым кантыненце Венерн у Швецыі. Мост будзе высока завешаны, каб маглі пад ім праплываць караблі, а на пабудову яго спатрэбіцца 250 тыс. тон сталі і 370 тыс. тон цэменту. Гігант мае быць гатовы найпазней праз 10 год.



## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### *КОНСКАЯ СІЛА*

Расказваюць, што вядомы вынаходца Джэймс Уат жыў вельмі бедна. Ён пазычаў грошы ў свайго суседа-піванара і ўрэшце быў вінен яму вялікую суму. Пасля доўгага роздуму Уат прапанаваў півавару, каб расплаціцца за доўг, паставіць на яго заводзе паравую машыну. Завод знаходзіўся на ўзгорку, а для вырабу піва патрэба шмат вады, якую падавалі з ракі. На гэта трацілася шмат працы і грошай. Півавар трымаў цэлую стайню коней, якія абслугоўвалі помпы.

Прапанова Уата зацікавіла півавара, і ён згадзіўся паставіць паравую машыну, але пры адной умове: машына павінна мець такую ж магутнасць, як конь, што абслугоўвае помпу. Уат вырашыў даведацца, якую ж магутнасць мае конь пры падачы вады. Пра гэта даведаўся півавар і выбраў самага здаровага каня, і прытым яшчэ некалькі дзён добра яго карміў. Конь добра адпачыў, яго запрэглі ў помпу і пачалі паганяць пугай, каб больш напампаваў вады. Падлічылі зробленае, і аказалася — за адну секунду конь выконваў работу ў семдзесят кілаграмаметраў.

«Ну што ж, — сказаў півавар, — пабачым, што зробіць твая машына... Але ўлічы, яна павінна быць не слабейшая за каня».

Зробленая Уатам паравая машына выконвала работу ў семдзесят пяць кілаграмаметраў у секунду. Паравы «конь» быў мацнейшы. Так з'явілася адзінка вымярэння магутнасці, якой мы карыстаемся і ў наш час.

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



**Фота В. Казлова**

## Ці ведаеце, што...

...самыя старыя дубы растуць у Польшчы, блізка ад Пазнані. Іх тры. Вышыня каля 20 метраў, акружыня ствала 7—9 метраў. Іх узрост дасягае 600—900 гадоў. У Афрыцы, у Танганьіцы, расце баабаб. Яго ўзрост вызначаюць у пяць тысяч гадоў. Вышыня дрэва 22 метры, акружыня ствала — 47 метраў, крона мае 145 метраў. У графстве Кент (Англія) ёсць ціс з акружыняй ствала 18 метраў (яго ўзрост вызначаюць у тры тысячы гадоў). У вёсцы Джахундэры (Сванетыя) расце ліпа, якой больш за 1300 гадоў. Яна ўвышыню дасягнула 40 метраў. У Сіцыліі, на схіле Этны, расце двухтысячагадовы каштан з акружыняй ствала 20 метраў.

## Чэрць стагоддзя назад




НОВАЕ ЗНАЁМСТВА

Крок за крокам, ад дрэва да дрэва, цераз лясныя прасекі, шасейкі мы прабіраліся да ўмоўленага пункта — паштовай скрынкі нумар два, што ля штабеля дроў.

— Цяпер нам ежы хопіць на ўвесь пераход! — радаваўся Генка на першым жа прыпынку. — Ніколі б не паверыў, што так могуць сустрэць у Германіі...

Мы елі духмяны хатні хлеб з салам і добрым словам успаміналі людзей, што спяклі яго.

— Запомні, Генка, вёска завецца Альт Кіршнабек. Тры жанчыны. Крайні хутар ад лесу. Такое ж не забываецца...

На сёмыя суткі мы падышлі да ракі Парве. Зноў усплыў у памяці Павел Крылатых. Для мяне ён быў асабліва дарагі — пасябравалі яшчэ ў «Чайцы». Недзе ж тут яго магіла... Даведацца б, дзе... Невядома, як немцы хаваюць тут людзей: ці пакідаюць хоць які след аб чалавеку?

— Пераплывеш з хвораю нагой? — перапытаў мяне Генка.

Мы прыселі. Я агледзеў нагу. Пухліна не спадала, але боль прытупіўся.

— Пераплысці то пераплыву, але ж трэба зброю не замачыць. Пашукаем, мо на лодку пашанцуе?

Да Парве падышлі з поўначы, з кіламетр ад таго месца, дзе перапраўляліся першы раз. Над ракой заўважылі нейкую цёмную лінію. Падышлі бліжэй — мост. Вось удача! Толькі нешта дарогі не відаць ад моста. Ды і на нашай карце гэты мост не азначаны. Мусіць, новы.

Заставалася высветліць, ці ахоўваецца ён.

— Падпаўзу пагляджу, — прапанаваў Генка.

— Асцярожна толькі. Адыходзь на мяне.

Генка вярнуўся вельмі хутка.

— На мосце нікога няма, — з радасцю сказаў ён.

— Ахова можа быць і на тым баку, — выказаў я меркаванне.

Але — пайшлі.

Мост быў вузкі — для пешаходаў і веласіпедыстаў. Супрацьлеглы канец яго сам быў не відзён. Як жа даведацца, што там, каб не трапіць проста ворагу ў рукі?

— Ты заляж тут, а я перайду, — рашуча прапанаваў Генка.

Ён зняў боты, каб можна было ісці бясшумна, прыгнуўся і пайшоў.

Я непакоіўся: гэты мост можа разлучыць нас на заўсёды... Але ж і неразумна ісці разам. Лепш было пераплысці. Хоць гэта не проста, затое бяспечней. На сэрцы адлягло, калі Генка вярнуўся.

— Свабодна! Пайшлі! — шэптам сказаў ён мне.

Яшчэ тры пераходы і — будзем на месцы. Можа, сустрэнем сваіх... Як нам гэтага хацелася! Пераплылі цераз канал Тымбер і выйшлі да чыгуначнай лініі Кенігсберг — Цільзіт з паўночнага боку. Ціха падкрадваліся да штабеля. Падалі ўмоўны сігнал. Адказу няма. Адразу нібы абарвалася нешта ў сярэдзіне. Але ж гэта яшчэ не ўсё: хутчэй да каменя — можа там звесткі... Дрыжачымі ад хвалявання рукамі адварочваем камень. Але і пад ім нічога няма. Не верачы самім сабе, некалькі разоў разгрэблі пясок. Усё дарэмна...

Што рабіць далей? Цяпер у нас няма ніякай сувязі з «Цэнтрам». Праўда, тут па загаду Шпакава была закапана радыёстанцыя. Але ж усё роўна — няма радыста. Самі мы не можам радыёстанцыяй карыстацца. Праверылі — радыёстанцыя ацалела. Значыць, Мельнікаў з групай не прыходзіў сюды. Нечапанай была і аптэчка. Мы нацёрлі розных таблетак, змяшалі з парашкамі, змачылі нейкай мікстурай і прыклалі да маёй хворай нагі. Забінтавалі свежым бінтам. Здаецца, стала лягчэй — я пачаў варушыць пальцамі.

Мы рашылі пільнавацца гэтага месца, далёка не адыходзіць, пакуль не сустрэнем сваіх. Пад камень паклалі запіску.

Міналі дні, кончыліся хлеб і сала, якія мы так эканомілі. Зноў настаў голад. Трэба было нешта рабіць. Паелі ўсе парашкі і таблеткі, якія былі ў аптэцы. Але яны сіл не надавалі, толькі на час заглушалі голад. Добра, што вады было досыць: мы знайшлі ля рэчкі халодную крынічку. Праглынуўшы апошнія парашкі, мы запілі іх, разаслалі на зямлі адзін шынель, а другім накрыліся. Было гэта за поўнач. Яшчэ і задрамаць не паспелі, як нечыя крокі прымусілі нас насцярожыцца. Адкінулі шынель, узяліся за аўтаматы. Крокі набліжаліся. Ішоў не адзін. Сэрца, здавалася, выскачыць ад радасці. Гэта ж, напэўна, свае! Хацелася падхапіцца, кінуцца насустрач. Але крокі мінулі нас, аддаліліся. Зноў стала ціха. Калі б гэта былі свае — яны не прайшлі б міма. Вось і думай, хто б гэта мог быць...

— Не нашы... — прашаптаў Гена.

— Так, не нашы, — з горыччу пацвердзіў я.

Нага мая стала папраўляцца, усё-такі прымочкі, відаць, памаглі. Я паспрабаваў хадзіць без мыліцы. Ужо мог прайсці некалькі крокаў.

Настаў час ісці па харч. На карце аблюбавалі хутар Шмаленберг. Ён быў на другі бок чыгункі, акружаны лесам.

Недалёка ад гэтага хутара выбіліся на дарогу, пачулі галасы. Міма нас прайшлі два салдаты з вінтоўкамі за плячыма. Гэта быў патруль. Дарога вяла проста на хутар.

Мы вярнуліся ў лес і падышлі да хутара з супрацьлеглага боку. За высокім дашчатым плотам нічога не відаць было. Я падсадзіў Генку, каб ён

# ДЗЕ ПЁТР МІХАЙЛАВІЧ?

Я асцярожна пераступіў парог прыёмнай, і ў вачах у мяне замітусілася. Проста перада мной сядзела сакратарка з беласнежным тварам, які добра гарманіраваў з рознакалернымі апаратамі, што паўкругам стаялі побач яе. Белы, сіні, зялёны, жоўты, чорны апараты...

«Вось што значыць вытворчая эстэтыка», — з задавальненнем падумаў я і зрабіў крок уперад...

— Скажыце, калі ласка, Пётр Міхайлавіч...

У гэты час зазваніў тэлефон. Сакратарка аўтаматычна зняла трубку белага апарата.

— Ало! Пётр Міхайлавіч толькі што выйшаў!

І белы тэлефон на маіх вачах пачырванеў.

У гэты час зазваніў другі апарат.

— Ало! Пётр Міхайлавіч у сябе ў кабінеце піша важны даклад!

І чорны тэлефон стаў чырвоным.

Яшчэ званок.

— Ало! Пётр Міхайлавіч яшчэ не прыходзіў!

І пачырванеў сіні апарат.

Званок.

— Ало! Пётр Міхайлавіч вернецца праз гадзіну!

І жоўты тэлефонны апарат пераўтварыўся ў чырвоны.

Яшчэ званок.

— Ало! Пётр Міхайлавіч у камандзіроўцы!

І мігам пачырванеў зялёны тэлефонны апарат.

— Вы нешта хацелі даведацца? — у перапынку паміж званкамі звярнулася да мяне сакратарка.

— Я хацеў бы даведацца, дзе сапраўды Пётр Міхайлавіч.

Ні адзін мускул не задрыжаў на беласнежным яе твары.

— Усе спраўкі па тэлефону, — хутка адказала яна.

Юры Леонаў



— Каб у хату розных гадаў не вадзіў!

# НІЎКА



— Бачу, што вам ужо лепш і не лічыце ўжо сябе сабакам!
— Мяў, мяў.

## Галаваломка



На рысунку прадстаўлены тры фігуры, з якіх можна лёгка скласці трохвугольнік. Паспрабуйце скласці з іх квадрат.

*

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара:**



### ДРОБЯЗЬ

Пасажыр, сеўшы ў машыну, гаворыць шафёру:
— Ну, паехалі!
— Дык машына не заводзіцца.
— Дробязь, паехалі, потым завядзеш.

### «ВЫШЭЙШЫ» ГАТУНАК

Арцель выконвала заказ
На свой манер, і кожны раз
Рабілі ўсё не абы-як:
Вышэйшага гатунку — брак.

М. Вяршынін

### ДАРМА

Дзве старэнькія бабулі сядзяць на прызбе.

— Наш-та старшыня з павета вярнуўся. Гаворыць, яму там нейкую нагану далі...

— І дарма далі. Усё роўна прап'е.

### У ЛЕКАРА

— Доктар, скажыце шчыра, вы мяне вылечыце?

— Безумоўна. Статыстыка гаворыць, што ў падобных выпадках з сотні хворых выздараўлівае адзін.

— ???

— Вы якраз соты, якога я лячу ад гэтай хваробы. Апошнія 99 ужо памерлі.

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

— Дзе ты навучыўся так лаяцца, хлопчык?

— Гэтаму нельга навучыцца, гэта дар прыроды.

— Таварыш начальнік, я крыху затрымаюся: тут адну справу правярнуць трэба.

### КАМПЛІМЕНТ

БАЦЬКА (які дапамагаў сыну рыхтаваць урокі). Што сказаў настаўнік, калі ты паказаў яму пераклад?

СЫН. Ён сказаў, што я з кожным днём дурнею.



Настрашыў.

### ДАКЛАДНЫ АДКАЗ

На пытанне аднаго свайго чытача, як даведацца, ці ядавітая змяя ўкусіла чалавека, адзін амерыканскі часопіс адказаў так: «Калі чалавек пасля ўкусу змяі застанецца жывы на працягу трох дзён, значыць, змяя, што ўкусіла яго, не была ядавітая».

### ДОБРЫЯ ЛЕКІ

Толік вельмі кашляў. Яго пачалі карміць мандарынамі.

— Ну як, дапамагло? — запыталіся ў маці.

— Дапамагло, але толькі пасля гэтага ўсе мае сябры таксама пачалі кашляць.

### ШТО

— Янка сказаў мне, што жонка кінула яго дзесяць дзён таму назад і з тых пор не вярнулася.

— Ну і што ты яму параіў?

— Параіў пачакаць яшчэ тыдзень, перш чым ладзіць банкет з гэтага выпадку.

### СПЯРША

— Ну, дарагая, ці можаш ты адгадаць, дзе я правёў гэту ноч? — спытаў муж, з'явіўшыся ў хаце раніцай.

— Безумоўна. Але давай спярша паслухаем твой варыянт.



### ШТО ХАЦЕЛА

У вялікім таварным доме ўрачыста чакаюць мільённага пакупніка. Уваходзіць жанчына. Усе кідаюцца да яе, ёй працягваюць каласальны букет кветак, перадаюць падарункі. Падбягае тэлерэпарцёр.

— Выбачайце, пані, што вы, уласна кажучы, хацелі купіць?

— Бачыце... я не прыйшла купляць... Я хацела ўнесці скаргу... Учора мяне вельмі дрэнна абслужылі!

### ХОПІЦЬ

На страявой падрыхтоўцы сяржант камандуе навабранцамі:

— Направа! Налева! Стой! Кругом! Стой! Лажыся! Устаць!

Адзін з навабранцаў, паціснуўшы плячыма, выйшаў са строю.

— Ты куды? — здзівіўся сяржант.

— З мяне хопіць! Вы самі не ведаеце, чаго хочаце! За дзесяць мінут у вас змянілася столькі жаданняў!

### ПЕСНІ НА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Валі з Альхоўкі, Ані, Гені, Іры, Марысі, Валі, Люды, Іры, Гені, Валі, Ніны, Тамары, Олі, Зіны і Валі з Семяноўкі, Гайнаўскага павета змяшчаем песню п. з.

## Tajemnica pamiętnika

**Słowa: Marek Głogowski**
**Muzyka: Ryszard Poznakowski**

Tajemnica pamiętnika,
nie wie o niej nikt.
Tajemnica pamiętnika,
znasz ją tylko ty.

Gdy wieczorem w sercu miasta
gwar przestaje tętnić.
Siadasz w oknie i zaczynasz
pisać swój pamiętnik.
Blady księżyc na stronicach
światła swoje łamie.
A nad tobą niebo gaśnie
niebo jak atrament.

Od tak dawna już mieszkamy
naprzeciwko siebie.
Jestem w tobie zakochany,
chociaż o tym nie wiesz.
Chciałbym poznać tajemnicę,
którą zna pamiętnik.
Chciałbym wiedzieć, o czym piszesz,
za kim ciągle tęsknisz.

Tajemnica pamiętnika,
nie wie o niej nikt.
Tajemnica pamiętnika,
znasz ją tylko ty.

Przebiegasz w myślach dzień
i dobrych szukasz chwil.
Do gwiazd uśmiechasz się,
gdy znajdziesz którąś z nich.
A potem smutku mgła
przesłania twoją twarz.
Tęsknota, jakiś żal
o sobie dają znać.



### ЦІ ДАЛЁКА?

— Яблык ад яблыні недалёка падае...

— Зразумела, калі няма ветру.

## Курёзы

### Новы рэкорд

У сталіцы Турцыі — Анкары нейкі Мехмед Алі Халішы ўстанавіў сусветны рэкорд, прачытаўшы на памяць 6666 вершаў з карана. За гэтым назіралі шэсць экспертаў па карану. Адзін з іх пасля выступлення Халішы заўважыў: „Гэта рэкорд сучаснасці".

### Мужнасць за 100 гульдэнаў

Чарговы істэрычны крык мужчынскай моды на Захадзе — валасатыя грудзі. У каго больш расліннасці на гэтым участку цела, той лічыцца больш мужным мужчынам. А тым, каго прырода пакрыўдзіла, — не бяда, ім на дапамогу прыходзяць дзялкі розных фірм. Яны асвоілі выпуск нейлонавых валасоў, якія спецыяльным клеем можна наклеіць сабе на грудзі. У Галандыі, напрыклад, за гэта трэба заплаціць ад 20 да 100 гульдэнаў. Праўда, мужнасці ад гэтага не прыбаўляецца, ні на грош, затое бюджэт дзялкоў папаўняецца.

### Скарб на сценах

Паштовая марка з'яўляецца не толькі прадметам калекцыяніравання. Яна з'яўляецца «надзвычайным»... шпалерным матэрыялам. Манахі аднаго швейцарскага манастыра выклеілі сцены прыёмнага пакоя 80 тысячамі марак. Сапраўдны скарб для калекцыянера!

### Візітная картка

Рускі фізік А. М. Бутлераў меў незвычайную фізічную сілу. Аднойчы ў юнацтве ён пакінуў свайму сябру своеасаблівую візітную картку. Зайшоўшы да сябра, ён не застаў яго дома. Заўважыўшы ў кутку пакоя жалезную качаргу, Бутлераў сагнуў яе ў выглядзе літары «Б» і паставіў на месца.



Трацяць на гарэлку — эканомяць на ежы: пасля добрай выпіўкі не еў тры дні.